недаімшчыкау у хуткім часе будуць пададзены зыскі аб зносе дамоу і высяленьні.

**Местачковые жыдоускіе абшчыны** Член-інструктар па організацыі у окрузе жыдоускіх абшчын, п. Гэльфонд, вярнуушыся з губэрні перадае месцовай (цэнтр.) абшчыне, што справа па сконструіраваньню местачковых абшчын стаіць вельмі кепска дзеля безграшоуя, голада і зусім зразумелай дзеля гэтага незацікауленнасьці насяленьня.

**Безрабоціца** усе павялічваецца. У апошніе дні пачалася безрабоціца і сярод мясцовых дробных рамесьнікау. Самі ня маючы працы, яны прымушаны адмовіць у рабоце сваім падмайстрам. Глауным чынам цяпер шмат безработных падмайстрау сярод крауцоу, шауцоу і інш. Становішчо безработных вельмі цяжкае.

**У профэсыянальных саюзах** ідзець далей рэгістрацыя і запіс членау. Так сама вядзецца падлік безработных. Гэтымі днямі аднавілі сваю дзеяльнасьць профэсыянальные саюзы: „Ігла“, хатняй прыслугі, кухарау, афіцыянтау і гарбароу. Многіе саюзы паставілі на чарог пытаньне аб організацыі культурна-прасьветнай дзеяльнасьці. Аднак, цяпер гэтае пытаньне, з прычын незалежных ад саюзау, знаходзіцца у невысьсненым станов шчы.

**У цэнтральным рабочым коопэратыве**, па прапанаваньню адміністрацыі, пераімьнованы цяпер у саюз злучаных коопэратывау, праца яе вядзецца з такой энэргіяй, як раней. Многіе гандляры прыпынілі сваю дастауку коопэратыву розных таварау. Многіе служачые коопэратыва дагэтуль яшчэ сядзяць пад арэштам.

**У многіх ваколічных весках** няма ведама кім пашыраюцца чуткі аб маючай быць рэквізыцыі хлеба, фуражу і бульбы. Гэта выклікае нябяспеку сярод сялян. Яны дзеля гэтага хаваюць прадукты і ня прывозяць прадуктау для мястовага насяленьня. Варта было б каму належыцца зьвярнуць увагу на гэтые фальшывые чуткі, якіе палохаюць нашае сялянство, і растлумачыць ім праудзівае налажэньне справы.

**На мясцовых рынках**, час-ад-часу можна бачыць вось якіе абразкі: Нявядомые у формах салдатау хапаюць сялянскіе фурманкі і прымушаюць сялян кудысьці ехаць, штосьці вазіць. Некатарые з гэтых, што пападаліся на такіе прымусовые работы сяляне, апавядаюць, што іх з коньмі без харчоу пратрымлівалі круглые суткі і болей. Гэткіе рэчы трэба было спыніць. Запалоханые сяляне ня езьдзяць у горад і гэта вельмі адбіваецца на цэнах і на харчох для мястовага насяленьня. Для сялян устаноулена павіннасьць на фурманкі і забіраньне іх гвалтоуным чынам на работы каму уздумаецца ды яшчэ праз мала культурные прыемы, павінно быць спынено.

**Хлеб** апошнімі днямі значна патанеу і учора прадавауся па 3 р. 40 к.—3 р. 35 к. фунт. Гэта тлумачыцца тым, што у хуткім часе маюць быць прывезены у Менск вялікіе партыі эконамічнага хлеба.

**На рынку** у панядзелак 10-га лістапада, цэны былі вось якіе: дровы бярозавые—250 р. возік, малако—4 р. кварта, хлеб—3 р. 50 к. ф. каубаса—15 р. фунт, сыр—7 р. ф., газа—2 р. фунт, масло—20 р. ф., сьмятана—15 р. кварта, бульба—75 р. асьмінэ, капуста—12 р. пуд.

---

*Рэдактар-выдавец*
*Ядв. ЛУЦЭВІЧ.*

---



Друкарня Інвалідау, Менск.